*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 15 (1478) 8 КРАСАВІКА 2020 г.

## Не бойцеся маліцца – бойцеся грашыць

Штогод на Вербніцу касцёлы не змяшчаюць усіх ахвотных. Частка людзей стаіць на вуліцы, займаючы ўвесь прылеглы ходнік так, што мінакам не прайсці. Каб святар пакрапіў вербы асвечанай вадой, людзі шчыльна прыціскаюцца адзін да аднаго і вызваляюць вузкі праход. Але не сёлета.

За некалькі дзён да Вербніцы старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч заклікаў вернікаў заставацца дома і глядзець святочныя богаслужэнні праз тэлебачанне або сеціва. Перадусім, ён зрабіў акцэнт на людзях сталага веку, хворых і тых, хто баіцца заразіцца.



*Біскуп Аляксандар Кашкевіч асвячае святочныя вербы ў гарадзенскім Фарным касцёле*



*Некалькі сотняў чалавек сабраў галоўны касцёл Гародні на адной з імшаў*



*У гарадзенскім францішканскім касцёле асвячэнне на вуліцы*



*Лідскі Фарны касцёл не перапоўнены, але на дварэ, як звыкла - натоўп. У масках амаль нікога*

"Застаньцеся сёння дома ўсе - каб потым усім прыйсці ў касцёл!!! - напісаў прэсавы сакратар Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі Юры Санько ў Фэйсбуку. - Памятайце, што не вада асвячае стравы на стол, вярбу, а малітва!".

І ўсяроўна людзі пайшлі ў касцёлы. Як ішлі ў вайну, як ішлі пры камуністах, так пайшлі пры пандэміі.

У Лідзе касцёлы не былі перапоўненыя, але на дварэ каля Фарнага касцёла ўсё было, як звыкла - натоўп, можа меншы, чым летась, але вялікі, і гандлярак вербачкамі дастаткова, і купляюць. Некаторыя стаяць усю імшу, некаторыя сыходзяць пасля асвячэння вербаў, іншыя ў гэты час падыходзяць.

Трэба думаць, што перад Вялікаднем і на Вялікдзень людзей будзе значна больш, калі за тыдзень не адбудзецца нечага надзвычайнага.

*Паводле СМІ.*


9 772073 703003
20015

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

У красавіку па лічбах мы бачым значнае падзенне колькасці падпісчыкаў, але гэта адпала ведамасная падпіска, а што тычыцца фізічных асобаў, то змяншэнне нязначнае, а ёсць сям-там і прырост. Такім чынам, газета працягвае выходзіць, і пададзена заяўка на ўключэнне ў каталог падпіскі на другое паўгоддзе.

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 13 | 13 |
| Бяроза р.в. | 8 | 8 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 7 | 7 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | - | - |
| Івацэвічы р. в. | 2 | 2 |
| Камянец р.в. | 1 | 1 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 2 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | - |
| Маларыта р.в. | - | - |
| Пінск гор. | 6 | 5 |
| Пружаны р.в. | 4 | 3 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **45** | **43** |

| | | |
|---|---|---|
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | - | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 16 | 18 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 6 | 5 |
| Гарадок р.в. | 2 | 2 |
| Докшыцы р.в. | 3 | 3 |
| Дуброўна р.в. | 1 | - |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Наваполацк гор. | 18 | 18 |
| Орша гор. | 5 | 3 |
| Полацк гор. | 3 | 3 |
| Паставы р.в. | 4 | 2 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | - |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 6 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **80** | **76** |

| | | |
|---|---|---|
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 3 |
| Барысаў гор. | 3 | 4 |
| Вілейка гор. | 1 | 1 |
| Валожын гор. | 7 | 7 |
| Дзяржынск р.в. | 5 | 6 |
| Клецк р.в. | - | - |
| Крупкі р.в. | 2 | 1 |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Лагойск | 6 | 7 |
| Любань р.в. | 1 | 1 |
| Менск гор. | 167 | 163 |
| Менск РВПС | 10 | 9 |
| Маладзечна гор. | 9 | 6 |
| Мядзель р.в. | 2 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 4 | 4 |
| Нясвіж р.в. | 25 | 6 |
| Смалявічы р.в. | 4 | 5 |
| Слуцк гор. | 44 | 6 |
| Салігорск гор. | 3 | 3 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 4 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **303** | **241** |

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 3 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | - | - |
| Гомель гор. | 15 | 15 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 13 | 13 |
| Жлобін гор. | - | - |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 1 | 1 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 1 | 2 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 1 | - |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **43** | **44** |

| | | |
|---|---|---|
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 2 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 5 | 3 |
| Воранава р.в. | 2 | 2 |
| Гародня гор. | 25 | 25 |
| Гародня РВПС | 14 | 13 |
| Дзятлава р.в. | 8 | 5 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 3 | 3 |
| Карэлічы р.в. | 1 | 2 |
| Масты р.в. | 1 | 1 |
| Наваградак гор. | 3 | 8 |
| Астравец р.в. | 2 | 2 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 3 |
| Смаргонь гор. | 5 | 6 |
| Слонім гор. | 9 | 8 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 1 | 1 |
| Ліда | 46 | 10 |
| **Усяго:** | **135** | **99** |

| | | |
|---|---|---|
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 1 | 1 |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 2 | 2 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 20 | 18 |
| Асіповічы гор. | 8 | 9 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 2 |
| **Усяго** | **39** | **40** |
| **Усяго на краіне:** | **645** | **543** |



# Сакратарыят ТБМ

**Паважаныя супрацоўнікі медыцынскай сферы Беларусі!**

Дарагія нашы ўрачы і медсёстры!

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выказвае шчырую падзяку за вашу штодзённую дзейнасць падчас пандэміі, аб'яўленай Сусветнай арганізацыяй здароўя ў сувязі з распаўсюдам каранавіруса.

Мы ўдзячныя вам за тое, што вы, рызыкуючы сваім здароўем, штодня без мітусні і панікі робіце ўсё, што ў вашых сілах, каб абараніць наш народ ад страшнай хваробы. Вы праяўляеце лепшыя якасці, уласцівыя беларускай нацыі: адказнасць, прафесіяналізм, самаахвярнасць, спагадлівасць і дабрыню.

Дзякуй вам за вашу працу! Будзьце здаровымі!

Беражыце сябе!

Сакратарыят ТБМ.



# Сакратарыят ТБМ

**Паважаныя сябры Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны!**

Як вы ведаеце, улады Беларусі прынялі рашэнне значна падняць плату за арэнду памяшканняў з красавіка гэтага года. Зараз наша сядзіба працуе ў абмежаваным варыянце, мы да траўня не праводзім публічных мерапрыемстваў у сувязі з распаўсюдам каранавіруса. Кіраўнікі курсаў перайшлі на дыстанцыйнае навучанне або зрабілі перапынак. Аднак у плане аплаты за арэнду нашай арганізацыі не даводзіцца чакаць ніякай палёгкі. Праўда, мы і дагэтуль ніякіх ільготаў ад дзяржавы не атрымлівалі.

У такой сітуацыі мы звяртаемся да кожнага сябра Таварыства беларускай мовы.

Шаноўныя сябры! Просім вас, хто не плаціў складкі, зрабіце гэта, калі ласка.

У нас значная колькасць сяброў, і калі кожны заплаціць складкі, мы будзем мець пэўную суму сродкаў для дзейнасці.

Многія з вас, але на жаль не ўсе, рэгулярна плацяць складкі, а таксама робяць ахвяраванні. Толькі дзякуючы вашай падтрымцы мы можам праводзіць літаратурныя сустрэчы, выставы карцін, сходы нашых раённых арганізацый, выдаваць газету "Наша слова", падтрымліваць і абнаўляць наш сайт, працягваць працу па развіцці Універсітэта імя Ніла Гілевіча і шмат іншых мерапрыемстваў, а таксама рэгулярна аплачваць арэнду, якая на сённяшні дзень разам з камунальнымі плацяжамі складае больш за дзве тысячы беларускіх рублёў. А ў красавіку яна вырасце яшчэ на дзвесце рублёў і складзе дзве з паловай тысячы.

Мы ўдзячны ўсім сябрам, прыхільнікам, журналістам незалежных СМІ, хто ўжо падтрымаў нас. Разлічваем на вашу дапамогу і ў далейшым!

З павагай і ўдзячнасцю,

Старшыня ТБМ Алена Анісім.

# Зборнік вершаў пра родную мову

У гарадзенскім выдавецтве "ЛітАры" выйшаў з друку зборнік вершаў паэтаў Слонімшчыны "Душа роднай мовы", прысвечаны беларускай мове. Выданне прымеркавана да 30-годдзя Слонімскай філіі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Зборнік падрыхтавала і за ўласны кошт выдала кіраўнік Слонімскай філіі ТБМ Святлана Адамовіч. У зборнік "Душа роднай мовы" увайшлі вершы слонімскіх паэтаў Гальяша Леўчыка, Васіля Супруна, Алега Лойкі, Міколы Арочкі, Анатоля Іверса, Сяргея Чыгрына, Міколы Канановіча, Зніча, Ірыны Войткі, Таццяны Трафімчык. Зборнік аформіла слонімскага мастачка Надзея Салейка.




***Барыс Баль**, Радыё Рацыя.*

# 110 гадоў з дня нараджэння Барыса Кіта

**Барыс Кіт**, імя пры нараджэнні Барыс Уладзіміравіч Кіта (нар. 6 красавіка 1910, Санкт-Пецярбург - 1 лютага 2018, Франкфурт-на-Майне) - беларускі грамадскі дзеяч, педагог, матэматык, фізік, канструктар амерыканскай ракетнай тэхнікі, найстарэйшы сябар ТБМ усіх часоў.

Барыс Кіт чвэрць стагоддзя ўдзельнічаў у амерыканскіх касмічных даследаваннях, першым распрацаваў прынцыпы выкарыстання вадароду як паліва для касмічных ракет, аб'ездзіў з лекцыямі амаль усе краіны свету. Ён - сведка і ўдзельнік многіх вызначальных падзей, што адбываліся на планеце ў XX ст. Але ўсе гэтыя падзеі Барыс Кіт нязменна суадносіў з жыццём сваёй адзінай Бацькаўшчыны. Ён часта любіў паўтараць: "Усё, што я зрабіў, - для Беларусі".

Неласкавай, непрыветнай часта была яна для сваіх таленавітых сыноў. Барыс Кіт неаднойчы гаварыў, што ў СССР яго жыццё заўчасна скончылася б у ГУЛАГу. І ён зрабіў свой выбар - не прыняў сталінскай таталітарнай сістэмы, пайшоў у выгнанне, добра разумеючы, што не Бацькаўшчына была вінавата ў гэтым, бо і сама яна жыла пад рознымі акупацыямі, што не давалі беларусу быць гаспадаром на ўласнай зямлі. Ён, як і многія беларусы, вымушаны быў перайначваць свой лёс далёка за межамі Айчыны.



У найноўшы час ён стаў ганаровым грамадзянінам Навагрудка, дзе некалі вучыўся, узначальваў гімназію, вучыў дзяцей, ганаровым прафесарам Гарадзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

Справы выдатнага сына Беларусі застануцца ў гісторыі Бацькаўшчыны.

*Родныя вобразы.*

# ДА КАРАНАВІРУСА

Паспелі ў Нясвіжы акурат да трывожных падзей, перасцярог і забаронаў наладзіць за адзін дзень тры сустрэчы з шаноўнымі гасцямі - Яраславам Іванюком і Віктарам Шалкевічам.



Задума сустрэцца з моладдзю і актыўнай грамадскасцю Нясвіжчыны даўняя: яе абмяркоўвалі яшчэ мінулым летам, падчас спаткання ў Нясвіжы заснавальнік і трымальнік "Камунікаты" Яраслаў Іванюк і журналіст, эколаг, выдавец газеты "Белавежская пушча" Валер Дранчук. Як задумалі, так і зрабілі. Толькі з адным істотным і прыемным дадаткам, у якасці якога выступіў вядомы беларускі бард Віктар Шалкевіч.



Першымі сустрэлі гасцей нясвіжскія старшакласнікі-гімназісты. Ім, будучым гісторыкам і журналістам, юрыстам і медыкам, карысна было даведацца пра абставіны заснавання і дзейнасць вялікай беларускай электроннай бібліятэкі. Расповед Яраслава Іванюка стаўся сапраўдным урокам, што вучыў вандраваць па электронных стэлажах і паліцах. Урок той не быў сумным: з Віктарам Шалкевічам і яго песнямі не засумуеш, каб нават і моцна захацеў.

У педагагічным каледжы радаваліся гасцям так, як радаваўся б ім сам Якуб Колас, імя якога носіць установа. Будучыя педагогі актыўна ўдзельнічалі ў гаворцы, задавалі шмат нечаканых пытанняў, за што таксама атрымалі ад гасцей шмат прыемных сюрпрызаў.

Завяршыўся нясвіжскі дзень спадароў Яраслава і Віктара на курсах "Мова Нанова". Там былі крыху іншыя тэмы гаворкі, іншыя пытанні і іншыя песні, але нязменна па-беларуску, з клопатам пра новы беларускі дзень. Бо эпідэміі мінаюць, а навука, літаратура, песні - як і Радзіма - застаюцца.

З водгукаў:

Уладзімір, гімназіст:

- Не ведаў пра гэты электронны рэсурс. Цяпер буду чытаць кнігі, газеты і часопісы на "kamunikat.org".

Алена, навучэнка педагагічнага каледжа:

- Песні Віктара Шалкевіча слухала. А пра Яраслава Іванюка не ведала. Цікава, што на старонках яго бібліятэкі ёсць шмат кніжак нашых землякоў - В. Дранчука, С. Судніка, В. Аксак. Буду чытаць.

Адам Скачко, наведвальнік курсаў "Мова Нанова".

- Цудоўная сустрэча! Цудоўныя беларускія людзі! Вельмі рады знаёмству!

Наталля Плакса, старшыня Нясвіжскай арганізацыі ТБМ, арганізатар сустрэчы:

- Сённяшні дзень правяла з нашымі гасцямі. Адчула рытм і пазітыў іх жыцця. Гэтыя людзі шмат выдаткоўваюць сваёй энергіі, розуму, таленту дзеля свайго, роднага. Але гэта ж і падсілкоўвае іх.

***Вольга Карчэўская**. Нясвіж.*

# ХТО Ў БЕЛАРУСІ КАНТРАЛЮЕ МОЎНУЮ ПАЛІТЫКУ?
## (Ліст з Мінжылкамгаса і каментар Міхася Варанца)

*У лютым гэтага года слонімец Міхась Варанец па чарзе даслаў у газеты "Слонімскі веснік", "Гродзенская праўда" і "Рэспубліка" артыкул пра адсутнасць на беларускай мове тыпавых дамоў на асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі, пра незаключэнне са сланімчанкай Кацярынай Варанец тыпавых дамоў на роднай мове, пра тое, што для дырэктара Слонімскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі Алега Конана і начальніка Гарадзенскага абласнога ўпраўлення ЖКГ Алены Каспяровіч артыкул 50 Канстытуцыі ("Кожны мае права карыстацца роднай мовай") - фікцыя, міраж, існуе толькі на паперы, гэтаксама як з 2011 года толькі на паперы існуе і каналізацыя ў вёсцы Дзеравянчыцы Слонімскага раёна.*

*Нагадаем, Міхась Варанец з 5 лістапада 2018 года дабіваецца, каб Савет Міністраў зацвердзіў дамоўныя бланкі па-беларуску ("Наша слова" №№ 25,29,32, 33 за 2019 год, № 6 за 2020 год).*

*Няма аніякага дзіва, што ўсе тры дзяржаўныя газеты не апублікавалі артыкул. Аднак вынік ёсць. "Рэспубліка" пераадрасавала артыкул у Мінжылкамгас, а міністэрства прыслала Варанцу свае тлумачэнні.*

*Рэдакцыя прапануе ўвазе чытачоў "НС" пісьмо з Мінжылкагаса і каментары Міхася Варанца да гэтага пісьма.*

**МІНЖЫЛКАМГАС**
**03.03.2020 № 01-151 В 471**
**г. Слонім** Варанцу М.А.

Аб разглядзе звароту

Паважаны Міхаіл Адамавіч!

Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь (далей - Мінжылкамгас) разгледзела Ваш зварот з прапановай для публікацыі артыкула адносна парадку заключэння на беларускай мове тыпавых дагавораў на аказанне жыллёва-камунальных паслуг, а таксама будаўніцтва ачышчальных збудаванняў у вёсцы Дзеравянчыцы Слонімскага раёна, які паступіў з установы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Выдавецкі дом "Беларусь сегодня", і паведамляе наступнае.

Мінжылкамгасам распрацаваны Закон Рэспублікі Беларусь"Аб змяненні Закона Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў жыллёва-камунальных паслуг" (далей - Закон), які прыняты Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (далей - Палата прадстаўнікоў) 19 лістапада 2019 года і адобраны Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 3 снежня 2019 г. На стадыі распрацоўкі ў Закон была ўключана норма, якая прадугледжвае магчымасць падрыхтоўкі праектаў дагавораў на беларускай і рускай мовах. Разам з тым, пры праходжанні юрыдычнай экспертызы, а таксама пры разглядзе Закона Палатай прадстаўнікоў, гэтая норма была выключана. Матывам гэтага паслужыла тое, што згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

У сваю чаргу артыкул 7 Закона Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1990 г. № 3094-ХІ "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" замацоўвае, што акты дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь прымаюцца і публікуюцца на беларускай і (або) рускай мовах. Аналагічны парадак прыняцця і выдання нарматыўных прававых актаў на беларускай і (або) рускай мовах прадугледжаны артыкулам 54 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 ліпеня 2018 г. № 130-З "Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь".

Такім чынам, у Рэспубліцы Беларусь на канстытуцыйным узроўні замацаваны роўны юрыдычны статус абедзвюх дзяржаўных моў. Якіх-небудзь прэферэнцый і перавагі на заканадаўчым узроўні беларускай або рускай мове не надаецца, правы чалавека ў галіне забеспячэння роўнага статусу дзвюх дзяржаўных моў не ўшчамляюцца.

У адпаведнасці з абзацам другім часткі другой артыкула 17 Закона Рэспублікі Беларусь ад 16 ліпеня 2008 г. № 405-З "Аб абароне правоў спажыўцоў жыллёва-камунальных паслуг" выканавец жыллёва-камунальных паслуг абавязаны падрыхтаваць і заключыць са спажыўцом дагавор на аказанне асноўных жыллёва-камунальных паслуг у адпаведнасці з Законам і іншымі актамі заканадаўства.

Такім чынам, у сувязі з тым, што тыпавыя дагаворы на асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі зацверджаны на рускай мове пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 студзеняч 2009 г. № 99 "Аб мерах па рэалізацыі Закона Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў жыллёва-камунальных паслуг", выканавец жыллёва-камунальных паслуг прапаноўвае для заключэння дагаворы на рускай мове.

Аднак, калі спажывец жыллёва-камунальных паслуг выказвае жаданне заключыць дагавор на беларускай мове, нішто не перашкаджае падрыхтаваць такі дагавор і заключыць яго са спажыўцом.

У дапаўненне паведамляем, што Мінжылкамгасам накіравана даручэнне аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму аб падрыхтоўцы дагавораў прадпрыемствамі ЖКГ вобласці на беларускай мове і іх заключэнні па патрабаванні спажыўцоў.

Па пытанні будаўніцтва аб'екта "Ачышчальныя збудаванні прадукцыйнасцю 40 метраў кубічных у суткі ў вёсцы Дзеравянчыцы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці" паведамляем. У сувязі з тым, што ўпраўленнем Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Гродзенскай вобласці расследуецца крымінальная справа, ацэнка правамернасці дзеянняў службовых асоб выходзіць за рамкі кампетэнцыі Мінжылкамгаса.

У адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2001 г. № 300-З "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" адказ на зварот можа быць абскарджаны ў парадку, які ўстаноўлены заканадаўствам.

Намеснік Міністра В.А. Смірноў.

**КАМЕНТАР МІХАСЯ ВАРАНЦА**

**Мінжылкамгас канстатуе**

Сутнасць, квінтэсенцыя неапублікаванага артыкула: Акты дзяржаўных органаў выдаюцца на падставе і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй (арт. 137), а Савет Міністраў, насуперак артыкулу 17 Асноўнага Закона, не зацвердзіў тыпавыя дамовы на дзяржаўнай беларускай мове.

У пісьме Мінжылкамгаса намеснік міністра Віталь Смірноў бадзёра паведамляе, што ў Беларусі на найвышэйшым, "канстытуцыйным узроўні замацаваны роўны юрыдычны статус абедзвюх дзяржаўных моў"! Дзякуй, спадар Смірноў, за канстатацыю факта! Ведаем! У тым ліку ведаем, што ўрад не мае аніякага дачынення да замацавання ў Канстытуцыі моўнай роўнасці.

Што па сутнасці? Чаму Савет Міністраў па сёння не зацвердзіў дамоўныя бланкі па-беларуску? Адказу па сутнасці ў пісьме Мінжылкамгаса няма! Замест адказу В. Смірноў, ужо не так бадзёра, паведамляе: "Тыпавыя дагаворы… зацверджаны на рускай мове пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 студзеня 2009 г. № 99". Зноў канстатацыя! І гэта ведаем, спадар Смірноў. У тым ліку ведаем, хто ў Савеце Міністраў нясе адказнасць за стан спраў у сферы жыллёва-камунальнай гаспадаркі…

**Ад імя і па даручэнні ўрада**

Мінжылкамгас дзейнічае ад імя і па даручэнні ўрада Беларусі, пазіцыя міністэрства наконт тыпавых дамоў з'яўляецца пазіцыяй Савета Міністраў! З Апарата Савета Міністраў мне двойчы напісалі (апошні раз - 20 лістапада 2019 года): "Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з'яўляецца калегіяльным цэнтральным органам дзяржаўнага кіравання. У склад Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь уваходзяць міністры, якія нясуць адказнасць за стан спраў у даручанай ім сферы дзейнасці. Пытанні, выкладзеныя ў Вашых зваротах, датычацца кампетэнцыі Мінжылкамгаса".

**Ганебнае сартаванне**

Мінжылкамгас (чытай - Савет Міністраў) праз аблвыканкамы і Менскі гарвыканкам накіраваў прадпрыемствам ЖКГ чарговае даручэнне падрыхтаваць тыпавыя дамовы на беларускай мове (папярэдняе такое "філалагічнае" даручэнне год таму было накіравана слонімскім камунальнікам).

Такім чынам, урад падзяліў спажыўцоў жыллёва-камунальных паслуг на дзве няроўныя катэгорыі. Першай катэгорыі прапануюцца тыпавыя дамовы па-руску, зацверджаныя Саветам Міністраў, другой катэгорыі (ніжэйшага гатунку) - саматужныя па-беларуску, зацверджаныя дырэктарам мясцовага прадпрыемства ЖКГ.

Магчыма, гэта даручэнне будзе выканана. Магчыма, на кожным прадпрыемстве ЖКГ будзе вывешана інфармацыя:"Паважаныя спажыўцы! Прапануем Вам на выбар тыпавыя дамовы па-руску і саматужныя па-беларуску!".

Магчыма, даручэнне і не будзе выканана. Ужо вядомая нам гарадзенская чыноўніца Алена Каспяровіч (гл. артыкул "Языча, языча, які чорт цябе кліча?" - "НС" № 6, 05.02.2020) у лісце ад 11 лютага гэтага года, насуперак сцвярджэнню Смірнова пра "нішто не перашкаджае", паўторна адмовіла Кацярыне Варанец у праве падпісаць беларускамоўныя дамовы, адно гэтым разам не прапанавала скарыстацца паслугамі перакладчыка.

З нагоды такога ганебнага сартавання мы можам сказаць і міністру ЖКГ Аляксандру Цераахаву і Прэм'ер-міністру Беларусі Сяргею Румасу на даступнай ім мове іхняга начальніка: "Пазорышча!"

**Каго баяцца беларускія міністры?**

Відавочна, чыноўнікі-выканаўцы, ад дырэктара раённага прадпрыемства ЖКГ і да членаў урада ўключна, без загаду баяцца нават пальцам паварушыць дзеля забяспечання грамадзянам Беларусі магчымасці заключаць тыпавыя дамовы на беларускай мове. Маленькія начальнікі баяцца вялікіх. Гэта добра бачна на прыкладзе дырэктара Слонімскага ГУП ЖКГ Алега Конана. Загадалі Конану перакласці дамовы на беларускую мову і заключыць іх з Міхасём Варанцом - пераклаў і заключыў, наконт Кацярыны Варанец загаду не было - не заключыў.

На прадпрыемствах ЖКГ усе бланкі тыпавых дамоў - у электронным выглядзе. Цана пытання роўна кошту аднаго аркуша паперы фарматам А-4 з тэкстам пастановы Саўміна аб зацвярджэнні беларускамоўных бланкаў. Аднак Савет Міністраў упарта ігнаруе Канстытуцыю і не зацвярджае беларускамоўныя бланкі тыпавых дамоў.

Каго баяцца большыя начальнікі - міністр ЖКГ Цераахаў і Прэм'ер-міністр Румас? Што за невядомыя нам "эксперты" і "спецыялісты", не дазваляюць ураду зацвердзіць дамоўныя бланкі на беларускай мове? Напрыклад, 3 студзеня 2019 года Адміністрацыя Прэзідэнта накіравала мой зварот да А. Лукашэнкі ў Савет Міністраў для "разгляду па сутнасці ў адпаведнасці з кампетэнцыяй". Кампэтэнцыя ва ўрада была і ёсць, а зацверджаных дамоўных бланкаў па-беларуску як не было, так і няма.

**"Нешта" пераважвае "Нішто"**

У трох лістах запар Міжылкамгас нястомна піша адну і тую ж аптымістычную фразу: "**Нішто** не перашкаджае" заключыць са спажыўцом беларускамоўныя дамовы!

Але! **Нешта** перашкодзіла Конану і Каспяровіч заключыць з Кацярынай Варанец беларускамоўныя дамовы… Нешта перашкаджае Цераахаву і Румасу прытрымлівацца літары і духу Канстытуцыі Беларусі, перашкаджае зацвердзіць дамоўныя бланкі па-беларуску…

З пэўнасцю можна сказаць толькі адно: нейкае невядомае і магутнае "Нешта" пераважвае ўрадавае "Нішто"!

***Міхась Варанец,***
***г. Слонім.***

№ 15 (1478) 8 КРАСАВІКА 2020 г. НАША СЛОВА

# З Пагоняй на тарчы

Ён кіраваў кафедрай жывапісу ў Акадэміі мастацтваў і адначасова ўзначальваў Управу Беларускага народнага фронту. Быў галоўным у Згуртаванні беларусаў свету і сядзеў пяць сутак нібыта за нецэнзурную лаянку. Аляксей Марачкін - адзін з самых вядомых беларускіх мастакоў, чые творы і грамадзянская пазіцыя выклікаюць як захапленне, так і крытыку.

30 сакавіка 2020 года ён адсвяткаваў сваё 80-годдзе. Вашай увазе - некаторыя факты з яго біяграфіі, а таксама рэдкія кадры, на якіх можна ўбачыць знакамітага мастака падчас працы ва ўласнай майстэрні. Піша TUT.BY.

Свой юбілей Алесь Мара (гэта псеўданім мастака) нечакана сустракае ў Чарнагорыі. Ён накіраваўся туды разам з іншымі беларускімі мастакамі на пленэр, але з-за каранавіруса не змог своечасова вярнуцца дадому.

Як тлумачыць нам Ігар Марачкін, сын Аляксея Антонавіча, гэты пленэр ужо не першы год ладзіць чарнагорскі бізнесмен Ратка Паповіч. Беларусы жывуць за яго кошт у віле высока ў гарах і займаюцца творчасцю.

Праца на Балканах атрымалася надзвычай плённай. З пачатку сакавіка Марачкін-старэйшы стварыў ужо 19 карцін. Некаторыя з іх застануцца ў Чарнагорыі.

- Звычайна мастак пакідае гаспадару некалькі твораў, пра якія з ім дамовіцца. Так прынята: творцы выказваюць удзячнасць за гасцінны прыём, - кажа Ігар Марачкін.

- Умовы для працы сапраўды створаны найвыдатнейшыя, - працягвае спадар Ігар і прыводзіць наступны прыклад:

- У краму звычайна выязджае гаспадар. Згодна з правілам, у машыне падчас каранціну можна ездзіць толькі ўдвух: кіроўца і пасажыр на заднім сядзенні. Але вялікай патрэбы ў вандроўках няма. У спадара Раткі надзвычай вялікая гаспадарка. Усё як звычайна на нашых сядзібах: ёсць і жывёлы, і птушкі. Адпаведна, ёсць ежа, таксама - запасы віна. Можна забяспечыць сябе харчаваннем на многія месяцы нават без крамы.

На мінулых выхадных беларусы арганізавалі на віле выставу: павесілі на сценах свае творы.

- Яны зрабілі гэтую выставу больш для сябе. Былі запрошаны літаральна некалькі мясцовых мастакоў, якія жывуць паблізу. Каб падтрымаць аўтараў, паказаць, што зараз яны не адны.

А так беларусы жывуць на віле амаль у поўнай ізаляцыі. Найбліжэйшыя населеныя пункты размешчаныя на адлегласці за дзесяць кіламетраў.

- Настрой ва ўсіх добры, бадзёры. Песімізму няма. Так, бацька хоча вярнуцца на Радзіму, але падпарадкоўваецца міжнародным правілам. Перасядзець гэтую сітуацыю ў гарах будзе больш правільна.

**Аляксей Марачкін - чалавек з дзвюма датамі нараджэння.**

- Я заўсёды тлумачу гэтую блытаніну, - казаў мастак у інтэрв'ю "Нашай Ніве". - Сапраўдны мой дзень нараджэння - 30 сакавіка, "на Божага чалавека Ляксея нарадзіўся", як маці казала. А калі я пайшоў у першы клас, ведаў толькі, што ў сакавіку, але не ведаў даты. Чамусьці дзясятка спадабалася. Так і з'явілася 10 сакавіка. І пачало "гуляць" у афіцыйных дакументах. А ў даведніках па мастацтве ўжо фігуруе 30 сакавіка.

Малым дзіцём Марачкін, які нарадзіўся на Чэрыкаўшчыне (усход Магілёўшчыны), стаў сведкам бою паміж немцкімі і савецкім лётчыкамі - ішла Вялікая Айчынная вайна. Як згадваў мастак у інтэрв'ю "Новаму часу", аднойчы ён схаваўся ў жыта, каб лепш пагледзець на бой. Убачыў, як за адным самалётам з'явіўся чорны дым. Выбуху не было. Прайшло больш за сорак гадоў, і калі пачалі асушаць балоты, то знайшлі і той самалёт, і нават савецкага лётчыка ў ім - у торфе захавалася амаль усё.

- Загінулы лётчык выглядаў нібы жывы. Пазней дазналіся яго імя і паставілі помнік.

**Маляваць Марачкін пачаў яшчэ ў школе.**

- [Бацька] казаў: "Ты, Ляксейка, гультай. Нічога не ўмееш - толькі малюеш бы". А я на замерзлых шыбах розныя ўзоры цвіком шкрабаў. Не памятаю, каб ён з вайны прывёз швейную машынку ці нешта такое, а прывёз ахапак паштовак. Як пасля высветлілася, гэта былі рэпрадукцыі з Дрэзданскай галерэі, Луўра. Яму не было абыякава, што я малюю. Але я ўсё самастойна спасцігаў, - расказваў ён у інтэрв'ю "Нашай Ніве".

Першыя творы Алеся Мары былі надрукаваныя ў школьных альбо калгасных сценгазетах.

- Адзін раз мяне пабіў аднакласнік. "За што ты майго бацьку скрытыкаваў?" А ён быў п'яніца: намаляваў яго з бутэлькай. Гэта быў першы "ганарар".

Пасля школы Марачкін вырашыў паступаць у Менскае мастацкае вучылішча, але не прайшоў конкурс. Яму пашанцавала: яго і іншых калег па няшчасці прынялі на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута (яго Аляксей Антонавіч скончыў у 1962-м).

Потым была служба ў арміі, дзе мастак спаліў танк.

- Зімой сказалі: на макетах ты навучыўся кіраваць, сядай у сапраўдны танк. Я залез і ўсе кнопкі ўключыў. Сістэма не вытрымала напругі - і пачала гарэць праводка, схапілася полымя. Я ледзь уцёк. І танк выгарэў ушчэнт: чорны стаяў на белым снезе, - расказваў Марачкін "Нашай Ніве". - <…> На гаўптвахту мяне не пасадзілі. А пасля навучылі на танку ездзіць. Мне падабалася, што не трэба вучыць правілы дарожнага руху.



Вярнуўшыся з войска, Аляксей Антонавіч пэўны час выкладаў жывапіс у Жодзіне, а потым паступіў у Акадэмію мастацтваў (скончыў у 1972-м).

Ужо ў тыя гады мастак меў рэпутацыю дысідэнта. Так, да 100-годдзя са дня нараджэння Леніна студэнтам загадалі намаляваць штонебудзь адпаведнае. Марачкін стварыў твор пад назвай "Смаленне чорнага кабана". Зразумець маштаб крамолы могуць толькі тыя, хто ведае, якім заідэалагізаваным было тагачаснае савецкае грамадства. Да таго ж мастак яшчэ і заявіў чыноўнікам, што Ільіч, маўляў, любіў таксама паесці сала, таму не бачыць у сваім учынку праблемы.

У глухія брэжнеўскія часы Марачкін з'яўляўся ўдзельнікам творчага асяродка "На Паддашку" - так называлася майстэрня мастака Яўгена Куліка на цяперашнім праспекце Незалежнасці, што месцілася насупраць будынка КДБ.

Там збіраліся будучы лідар БНФ Зянон Пазняк, гісторык Міхась Чарняўскі, даследчык Міхась Раманюк, паэт Алесь Разанаў. Менавіта падчас гэтых дыскусій нарадзіліся ідэі дзвюх гучных выстаў: выставы да стагоддзя са дня нараджэння паэтэсы Алаізы Пашкевіч (Цёткі) у 1976-м і выставы да юбілею паэта Міколы Гусоўскага (у 1980-м).

- Рашэннем ЮНЕСКА юбілей Міколы Гусоўскага быў унесены ў сусветны каляндар выдатных культурных падзей. У гэтых абставінах не адзначыць падзею было для кіраўніцтва БССР тое ж самае, што прадэманстраваць усяму свету абыякавасць ці нават варожасць да беларускай нацыянальнай культуры. Адзначыць - паспрыяць распаўсюджванню ў Беларусі нацыяналістычных настрояў, - пісаў мастацтвазнаўца Пётра Васілеўскі. - Вырашылі ўсё ж юбілей аўтара "Песні пра зубра" адсвяткаваць, але трактаваць беларускага генія як носьбіта духоўнай велічы "ўсходнеславянскіх народаў".

- А паколькі ніякіх святочных мерапрыемстваў падрыхтавана не было, давялося ўхапіцца за паўпадпольную, "нацыяналістычную" выставу, надаць ёй афіцыйны статус, - працягвае Васілеўскі. - Але афіцыйнае - значыць падцэнзурнае. Ад мастакоў запатрабавалі зняць з экспазіцыі творы, у якіх прысутнічае герб "Пагоня". Тыя, зразумела, адмовіліся. Астатнія іх падтрымалі і заявілі: калі здымуць гэтыя творы, мы паздымаем свае і выставы ўвогуле не будзе. Экстрэмальныя абставіны прымусілі ўладу саступіць: ніводзін твор не быў зняты з экспазіцыі.

Падчас перабудовы Марачкін уключыўся ў грамадскае жыццё, якое тады літаральна вiравала. У 1986-м ён разам з мастаком Міколам Купавам арганізавалі ў Траецкім прадмесці "Выставу аднаго дня". Тое свята скончылася скандалам: на дзяцей (навучэнцаў Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве) нацкавалі былых "афганцаў". Тых падманулі: расказалі, што дзеці, якія бралі ўдзел у абрадзе гукання вясны, святкуюць дзень нараджэння Гітлера. Марачкін ды Купава скардзіліся ў пракуратуру, але атрымалі толькі адпіску.

У 1988-м Марачкін увайшоў у грамадскую раду "Мартыралога Беларусі" - таварыства, якое займалася тэмай сталінскіх рэпрэсій. Між іншым, менавіта на ўстаноўчым сходзе "Мартыралога" быў створаны арганізацыйны камітэт Беларускага народнага фронту, сябрам якога стаў і Марачкін.

У наступным годзе Марачкін разам з аднадумцамі сустракаўся з кіраўніцтвам БССР і марна спрабаваў дамовіцца, каб установучы з'езд БНФ адбыўся ў Менску (урэшце ён прайшоў у Вільні). У 1990-м разам з Зянонам Пазняком і Юрыем Хадыкам Аляксей Антонавіч падаваў заяўку, каб адсвяткаваць у Менску Дзень Волі (25 сакавіка).

У 1990-м ён вылучыў сваю кандыдатуру на парламенцкія выбары ў Вярхоўны Савет 12-га склікання - першыя, якія праходзілі на альтэрнатыўнай аснове. Мастак ішоў на выбары як сакратар праўлення БНФ. Яго галоўным супернікам па Сталінскай Чкалаўскай акрузе быў пісьменнік, генерал міліцыі Мікалай Чаргінец. Але ніхто з іх так і не стаў дэпутатам: яўка выбаршчыкаў аказалася занадта нізкай. А на паўторныя выбары Марачкін сваю кандыдатуру ўжо не выстаўляў.

Сакратаром управы БНФ Марачкін з'яўляўся да 1993 года.

- Што мы зрабілі не так? Адзін надта свядомы спрачаўся з другім, які не дарос да яго свядомасці, і ўвесь час казаў: "Згода!" Таму і прафукалі. Я маю на ўвазе Зянона Пазняка і [Станіслава] Шушкевіча, - казаў мастак TUT.BY.

Палітыкай Аляксей Антонавіч займаўся на грамадскіх пачатках, бо знаходзіўся на вольных хлябах толькі ў 1970-я. Пасля стаў галоўным мастаком Мастацкага фонда, у 1988-м - выкладчыкам у Акадэміі мастацтваў. Праз два гады ўзначаліў кафедру жывапісу.

Цяпер цяжка ўявіць тую вольніцу, якая панавала ў сталічных ВНУ. Як расказваў Марачкін, разам са студэнтамі ён зладзіў перформанс да аднаго з "Чарнобыльскіх шляхоў". Дарэчы, Чарнобыль паўплываў і на жыццё нашага героя: Ігар, сын мастака, быў ліквідатарам аварыі.

Падчас "Шляху" студэнты Марачкіна ішлі ўнутры кардонных чорных труб, з якіх ішоў дым - запальваліся дымавыя шашкі. Цяпер мастак нават не марыць, каб студэнты выйшлі на мітынг гэтак ва свабодна.

- Каб была свабода ўнутры чалавека, то сёння з Акадэміі мастацтва выйшлі бы з такім перформансам! Каб студэнтам сказалі, што трэба пайсці і выказаць свае адносіны - моладзь ішла б.

У 1997-м мастак быў вымушаны сысці з акадэміі.

- У канцы 1990-х многія выкладчыкі страцілі свае пасады. Тады галоўным ідэолагам быў сумнавядомы Замяталін <…>. Дык вось, мяне выклікаў рэктар Васіль Пятровіч Шаранговіч і расказаў, што наверсе жадаюць ад мяне пазбавіцца. Я яго падводзіць не хацеў, таму звольніўся, але не па ўласным жаданні. Праўда, у хуткім часе знялі і самога Шаранговіча, - расказваў Марачкін.

З таго часу Алесь Мара працуе як вольны мастак і рэгулярна трапляе на старонкі газет ды сайтаў. Праўда, адпаведныя нагоды часам стварае не сам творца, а іншыя асобы.

Так, у 2008-м Марачкін - на той момант кіраўнік Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" - быў затрыманы на пяць сутак - нібыта за тое, што брыдкаслоўю каля будынка Цэнтральнага РУУС. Пад выглядам пакупнікоў да яго прыйшлі супрацоўнікі міліцыі, якія зрабілі перапрус і канфіскавалі расцяжкі і плакаты да Дня Волі.

Зрэшты, Марачкін сапраўды ніколі не заставаўся ў баку ад палітыкі і выказваў сваю грамадзянскую пазіцыю ў творах. Так, у 2006 годзе, калі пасля прэзідэнцкіх выбараў на Кастрычніцкай плошчы ладзіліся пратэсты, ён стварыў карціну "За Свабоду! Плошча Каліноўскага". У яго карцінах увасоблена і дзяжурства ля рэстарана "Поедем поедим", што месціцца ля Курапат.

- Палітычная тэма - не асноўная ў маім жыцці, але яна асноўная ў маёй грамадскай пазіцыі. Скажыце, хто сёння бярэ смеласць выказацца сродкамі мастацтва ў адносінах да пануючага ў краіне палітычнага рэжыму? Адзін-два чалавекі, - адказваў Марачкін на крытыку ва ўласны адрас.

Дзеля аб'ектыўнасці, часам пазіцыя юбіляра выклікае пярэчанні і здзіўленне. Так, сярод яго твораў - і карціна "Меня неправильно поняли". На ёй Марачкін увасобіў партрэт Святланы Алексіевіч і заявіў, што Нобелеўскай прэміі былі вартыя шмат іншых пісьменнікаў, якія пісалі пабеларуску. Маўляў, хоць у кнігах Святланы Аляксандраўны ёсць пра чырвонага чалавека, пра СССР, яна пісала іх па-руску.

- Што да крытыкі… Лічу, што мастак сам сабе найгалоўнейшы суддзя. Я ведаю як і свае хібы, так і станоўчыя якасці. На сваіх выставах я ніколі не кладу кнігу водгукаў, - кажа Марачкін. - Мне казалі, што і ў сеціве на мае творы шмат каментарыяў. Але я не давяраю ўсім гэтым словам. Я давяраю сабе, маім калегам-мастакам альбо мастацтвазнаўцам, якія прааналізуюць творы, зробяць нейкія заўвагі. Па-другое, калі ў мастака шмат непрыяцеляў, то гэта нармальна. У кепскага мастака ўсё добра.

***TUT.BY.***

Фота: Дзмітрый Брушко, TUT.BY, vytoki.net і з архіва Сяргея Навумчыка..



